## ПУЛЬС

### Гандбалісты не трапілі ў фінал

**Гандбалісты зборнай Беларусі не трапілі ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы. 10 чэрвеня ў Рэйк'явіку яны перайгралі зборную Ісландыі з лікам 27:26 (першы тайм — 15:16) у паўторным матчы раунда плей-оф, аднак гэтага не хапіла для перамогі па выніках дзвюх сустрэч.**

Тыднем раней, 3 чэрвеня, беларусы прайгралі дома ісландцам з лікам 23:30.

У сустрэчы ў адказ мячы ў зборнай Беларусі закінулі: Аляксей Усік — 8, Андрэй Клімавец, Міхаіл Якімовіч — па 6, Сяргей Руценка — 3, Андрэй Сіняк — 2, Іван Броўка, Уладзімір Клімавец — па 1.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

### "Круты віраж-2001"

**10 чэрвеня ў Мінску стартаваў чарговы чэмпіянат Беларусі па трэкавых аўтамабільных гонках "Круты віраж-2001". Арганізатарамі спаборніцтваў выступілі газета "Аўтадайджэст" і Беларускае абаронна-спартыўнае тэхнічнае таварыства (БелАСТТ).**

Надзвычайнае майстэрства кіравання аўтамабілем і волю да перамогі прадэманстравалі многія аўтагоншчыкі, якія не шкадавалі ні сябе, ні сваіх аўтамабіляў. У асабістым заліку перамог Сяргей Стэфановіч (Мінск, каманда "Юкола-Рэйсінг"), які выступаў на аўтамабілі "Пантыяк". Другое і трэцяе месца занялі прадстаўнікі мінскай каманды "Аптымал" Юрый Семянчук і Андрэй Пагоцкі на аўтамабілях "Опель Кадэт".

У камандным заліку першыя тры месцы размеркаваліся наступным чынам: "Юкола-Рэйсінг" (Мінск), "Аптымал" (Мінск) і БелАСТТ (Мінск).

Генеральным спонсарам гонкі выступіла кампанія "Konica". Наступны этап чэмпіянату пройдзе 24 чэрвеня, зноў на стадыёне "Зара".

**Аляксей АРЭШКА.**

### Паўднёва-карэйскія бізнесмены наведаюць Мінск

**18 чэрвеня ў Мінску пройдзе бізнес-сустрэча дзелавых колаў Беларусі і Рэспублікі Карэя.**

Беларусь наведаюць прадстаўнікі дзевяці паўднёва-карэйскіх прадпрыемстваў. У наладжванні прамых кантактаў з беларусамі зацікаўлены вытворцы посуду з нержавеючай сталі, бытавых сістэм ачысткі і мінералізацыі вады, прадукцыі хімічнай прамысловасці. Акрамя таго, карэйскія бізнесмены прапаноўваюць наладзіць пастаўкі ў Беларусь лічбавых відэамагнітафонаў, дыктафонаў і фотакамер, прыёмнікаў спадарожнікавага тэлебачання, ахоўных сістэм відэаназірання, абсталявання для інтэрнет-канферэнцый, вытворчасці медыцынскіх прэпаратаў, кандытарскай прадукцыі і некаторых іншых тавараў.

Акрамя пытанняў ажыццяўлення экспартна-імпартных аперацый, падчас бізнес-сустрэчы плануецца абмеркаваць магчымасць стварэння сумесных прадпрыемстваў і вытворчасцяў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

### Зацверджаны сумы выплат былым остарбайтэрам

**У Мінск вярнулася дэлегацыя Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне" на чале са старшынёй праўлення фонду Валянцінам Герасімавым.**

Дэлегацыя ўзяла ўдзел у пасяджэнні праўлення аўстрыйскага дзяржаўна-прамысловага фонду "Прымірэнне", якое прайшло ў Вене. На ім былі зацверджаны дакументы, якія рэгламентуюць парадак аднаразовых выплат грашовых кампенсацый былым вязням прымусовай працы. Выплаты будуць рабіцца толькі тым былым остарбайтэрам, якія ў гады другой сусветнай вайны падвяргаліся нацысцкаму праследу на тэрыторыі, што цяпер уваходзіць у склад Аўстрыйскай Рэспублікі. Для былых вязняў рабскай працы, якія знаходзіліся ў канцлагерах або іншых месцах зняволення, устаноўлена грашовая кампенсацыя ў памеры 105 тысяч шылінгаў, што адпавядае 15 тысячам нямецкіх марак. Для былых остарбайтэраў, чыя праца выкарыстоўвалася ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы — адпаведна 35 і 20 тысяч шылінгаў, што адпавядае 5.000 і 2.860 маркам. Асобы, дэпартаваныя на тэрыторыю Аўстрыі ва ўзросце да 12 гадоў са сваімі бацькамі, атрымаюць такія ж сумы, як і іх бацькі, а жанчыны, якія былі вымушаны рабіць аборт або нараджаць дзяцей у спецыяльных клініках для прымусовых рабочых, атрымаюць дадатковыя выплаты ў памеры 5 тысяч шылінгаў. Для былых остарбайтэраў, якія падвергліся асабліва жорсткаму абыходжанню, устаноўлены максімальныя памеры кампенсацый. Іх нашчадкі маюць права атрымаць выплаты толькі ў тым выпадку, калі былы вязень прымусовай працы памёр пасля 15 лютага 2000 года.

Дата пачатку выплаты грашовых кампенсацый былым остарбайтэрам пакуль не вызначана.

**Марат ГАРАВЫ.**

### У Брэсце апаганены помнік вязням яўрэйскага гета

**Помнік, устаноўлены ў памяць аб тысячах расстраляных у гады Вялікай Айчыннай вайны брэстаўчан, неаднаразова цярпеў ад актаў вандалізму. Звычайна невядомыя малявалі на ім фашысцкую свастыку крэйдай. На гэты раз помнік размаляваны сіняй фарбай, прычым выяўлена не толькі свастыка, але і нанесены зневажальны антысеміцкі надпіс.**

Як паведаміў БелаПАН старшыня гарадскога яўрэйскага таварыства Аркадзь Бляхер, ён не раз звяртаўся ў міліцыю з просьбай узбудзіць крымінальную справу па факце апаганьвання помніка, аднак яму заўсёды адмаўлялі, спасылаючыся на тое, што надпісы крэйдай можна лёгка сцерці. На гэты раз Аркадзь Бляхер мае намер быць больш настойлівым. "За надпісы "Зубр" і "Жыве Беларусь" на сценах дамоў моладзь прыцягваюць да адказнасці, — кажа ён. — Антыяўрэйскія ж надпісы не адзін год "упрыгожваюць" сцены ў мікрараёне "Паўднёвы", і нікому да іх няма справы, іх нават не спяшаюцца зафарбоўваць".

### Брэсцкая вобласць лідзіруе па нарыхтоўцы сена

**Паводле звестак на 11 чэрвеня, у Брэсцкай вобласці нарыхтавана 15 тысяч 54 тоны сена. Гэты паказчык складае ўсяго 3,7 працэнта да плану, аднак з'яўляецца самым высокім у краіне.**

Ураджайнасць траў даволі нізкая — 60—65 цэнтнераў з гектара, у той час як павінна быць у сярэднім 160 цэнтнераў: даюцца ў знакі майскія замаразкі, засуха і недахоп угнаенняў. Убіраць травы сялянам дапамагаюць раённыя механізаваныя атрады, на рахунку якіх 15 тысяч 210 тон зялёнай масы. Па тэмпах уборкі лідзіруюць гаспадаркі Брэсцкага, Маларыцкага, Пінскага і Баранавіцкага раёнаў. Адстаюць Івацэвіцкі і Ганцавіцкі раёны.

Мала пакуль нарыхтавалі сіласу — усяго 1,3 працэнта да плану. Паводле апошніх звестак, на Брэстчыне ў наяўнасці 1,1 цэнтнера кармавых адзінак на ўмоўную галаву пры неабходных 13 цэнтнерах. Спецыялісты аблсельгасхарчу адзначаюць, што недахоп грошай і паліва адмоўна адбіваецца на нарыхтоўчай кампаніі ў цэлым.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

# БАЦЬКА І ШУХЕР

## Добрая ў нас пара, ой добрая! Уключыш бэтэшны пацешвідзік — спяваецца, пра шчаслівае заўтра нат не думаецца — само прыкоціцца.

Вячаслаў ДУБІНКА

Думае пра гэты дзянёк шчаслівы Сам. І ў выхадны, і ў будзен дзень спяваюць, у скокі ногі просяцца. Пад бубен гучны цёткі дзябёлыя ў касцюмных апранахах, латышскімі спіцамі пашытымі, шчаслівае жыццё славяць. Чыкін у новы хамут упрогся, Зімоўскага на свой вазок прыхапіўшы. Бэтэшная тэлевізія на ўсееўрапейскі капыл паходзіць. І спяваюць, і байкі баяць. Нехта пракідны Кухта каторы дзень грэецца ў промнях славы знакамітага Кусто. Кухта кляпае свае тэлегэпалкі і тэлешоўкі, рускамоўнікаў цешачы. А, бачыце, можам! Жывем не горай, як у пыхлівай Еўропе, і гоп са смыкам у нас на ўзроўні. І не кажыце, што на бульбе гадаваныя, спевы ветрыка слухаючы. Правадыровы агіткі саладзей за мядок, а пад чарачку са шкварачкай свет мілы і прыгожы. І праўду кажуць служакі з БТ: славянскі стол, што абрус-самабранка. Тут п'юць, там посуд новы нясуць, пацалункі гарачыя з братамі з суседняга ўсходняга боку, з салодкімі слоўцамі ў падсалодку. У дружбе вернай да канца, а жабраваць удвох, калі давядзецца, весялей і тапіцца куды спарней. І таўкуць, як куццёвую пацяруху, сцвярджаючы: без бацькі прападзем, без Расіі братняй згібеем пад натаўскім ботам.

А для мяне даўно зразумела: бацька на шухеры.

А на шухеры ён уга з якое пары! Пашэнціла ўладальніку абшарпанай канторы перадавога калгаса сярод самых заняпалых на шклоўскіх абшарах. Людзі ў нас вядома якія, другіх не будзе. На бульбе гадаваныя, той жа самай скварачцы з чарачкай радыя, а таму і выбралі старшынёй вялікага калгаса не гаспадарлівага старшыню "Прагрэса" з Гарадзеншчыны, а самага брахліва-нахабнага з абяцанкамі-цацанкамі. І заводы не раўня калгасным кароўкам, запусцяцца і пачнуць працаваць, набліжаючы да новых вышынь рынкавага сацыялізму.

Вядзі, Рыгоравіч! За табой, Рыгоравіч!

І павёў. Са слоў маіх шматлікіх знаёмых, што аціраліся каля кебічавага карыта, чэрпаючы чыноўніцкую сёрбалку, я быў у курсе спраў і ведаў, як ішла барацьба шклоўскага старшыні калгаса з чырвонцам на ашчаднікжцы, за новую кантору вялікага калгаса. Не, яму не трэба апартаментаў у Доме ўрадавым. Тым самым, дзе бронзавы Ілліч на гуканні міравой камуніі і колькі дзесяцігоддзяў на ўдарнай вахце. Гаруе і ў непагадзь, і ў сонечны золак, і ночкай цёмнай... Рыгоравічу гэтай канторы не трэба! Яму толькі тую, дзе шчыраваў шмат пяцігодак з сямігодкамі ў хаўрусе "любимый вождь белорусского народа" — салодкагалосы Міронавіч, шчасце народу тубыльскаму куючы. Сіл не шкадаваў Міронавіч, наш генсек самае чэснае партыі на свеце, каб народ наш у саюзе з братняй Расіяй, лапці скінуўшы, у камунію светлазорную паспяшаўся. Хораша гукалі, прыгожага слоўца не шкадуючы, Міронавічавы паплечнікі. Шчаслівае гуканне вясны чалавецтва працягвалася і надалей і дасягнула свайго апагею. Гэкачэпісты на чале з Генам Янаевым, эсэраўскага генсека за кісет табакі прадаўшы, вырашылі падыхаючага асілка на ногі паставіць. А фінал усім вядомы. Партыі пшык, камуністы хто куды, а кантора праз пэўны час Рыгоравічу.

Не забыць ніколі, як гадоў колькі таму дабіраўся з горада Бабруйска ў горад Мінск. Пачатак жніўня. Варта было ад'ехаць за паварот на Цітаўку, як пачалося неверагоднае. На кожнай сцежцы, што бегла з лесу да аўташасейкі, — варта. А дзе можна было ехаць з лесу ці вёскі па каляіне на вазку — вартавых было двое, трое. Смеху варта тая варта. Дзецюкі са стрэльбамі, міліцыянты на матаконях, пешаком. А там дзе паваротка на Асіповічы — чалавек пяць з аўтаматамі, на харошых аўтаконях. Бандытаў ловяць? Калонія з-пад Оршы разбеглася? Дэзерціры збеглі з кулямётамі?

І так да самай сталіцы. Некалькі соцень чалавек стаялі на баявой варце. І што ж такое здарылася? І толькі вечарам, па "Навінах" БТ стала вядома, што правадыр наведаў эксперыментальную гаспадарку пад Мінскам, каб памацаць ці наліўся спажыўнымі сокамі жытнёвы колас, ці не пара гукаць люд працавіты на жніво. Да тае гаспадаркі закаціцца можна, а шухеру на ўсю магілёўска-мінскую акругу.

### Пявунскі шухер

Па свіному вуху, так у нашай вёсцы называлі радыёталерку на плошчы, паведамляюць: кіраўнік дзяржавы сустрэўся з вядомай на эрбэшных абшарах пяюхай і яе мужыком певуном. Яны ў чатыры рукі і два мікрафоны каторую пяцігодку неблагую капейчыну куюць. І колькі ж тое рандэву кіраўніка дзяржавы і пяюнскай пары доўжылася? Дайце веры, аж тры гадзіны. На спеўнай тупатні перад гледачамі іх столькі часу слухаць — цярпенне трэба. А прагаварыць жа. І пра што ішла гаворка? А кіраўнік ведае, з кім байкі баяць. Певуну з пяюхай вунь колькі народу тубыльскага ў ладкі пляскалі. Будзе часіна, каласок да каласка і на хлябец збярэцца. Своеасабліва, абачліва, нічога не скажаш.

Люблю я людныя тусоўкі, якія ідуць па тэлевізіі і толькі з удзелам Самога. Воку ўсцешна, на душы імпэту прыбывае, на добрыя справы бегчы хочацца. Асабліва гэта гледзішча дзяржаўнае важнасці ўражвае ў палацы, няхай у лядовым, проста спартыўным, але цвік праграмы — у Палацы Рэспублікі. Наш, кажуць, ці не самы буйны ў эсэнгэўскім абшары пасля маскоўскага Палаца з'ездаў. Наш і з космаса бачны. І, праўда, задума харошая. Палічыце, колькі харошага люду ў адным месцы, пад адным дахам змесціцца. Я неяк спрабаваў абысці гэтае архітэктурнае дзіва. Дарэмна адзін зламысны архітэктар назваў яго "грандыёзным архітэктурным дрыстуном". Пайшоў, каб абысці палац па перыметры. Не паспеў зайсці, за вугал, як мчыць да мяне сержант і гоніць мяне прэч адсюль. І добра зрабіў, бо праз некалькі дзён тут збіраўся адданы правадыру люд, а гэтая пільнасць не пашкодзіць.

А патрапіць сюды мараць многія! Дый толькі пайка смачная не ўсім выпадковым па зубах, а спевы пяюхі з певуном не для выпадковых людзей.

Я цешуся, калі па тэлевізіі паказваюць Самога ў гэным палацы. Правадыр годна глядзіцца. Ветэрану вайны і працоўнаму стаханаўцу, абамлелым ад шчасця, Рыгоравіч працавітую грабку ціcне. Хараша вальсане з маладзіцай, — у яе атэстаце сталасці адны пяцёркі. Прылюдна бліскучую бляху заслужанаму пісьмачу прышпіліць, паклаўшы на неблагі пракорм сотню пяцітысячных. З такіх святочных прылюдных вечарын Міронавіч пачынаў, а Рыгоравіч прадаўжае. Нябачная, але такая сімвалічная повязь часоў, калі хочаце. Развіты да нябёсаў савецкі сацыялізм шчасліва сканаў, але са сваёй шаўковай дамавіны паціскае руку Рыгоравічаваму рынкаваму сацыялізму.

А напярэдадні таго гукання добрых і адданых людзей з усяе Беларусі кіраўнік дзяржавы сустрэўся з галоўным банкаўскім чыноўнікам. Пра што гаварылі некалькі гадзін, у газеце некалькі радкоў. Але зразумела адно. Беларускі рубель не здох, а добра ўпёрся, як хвары асілак нагамі. І ўпіраецца колькі гадочкаў, дохне паціху. Долар — горш натаўскага служакі, дыверсант-капіталіст пашчу раззявіў, скубе рубельчык і скубе. Каб жа ты нарэшце выпруціўся, сабака! Каб жа, каб жа. Падушыў зайцоў, з патрахамі заглытнуў рысь, не пашкадаваў бедалагу ваўка, ажор з капытамі аленя і лася, загнаў у магілу буйнарагатае быдла. Кол асінавы на эрбэшнай валюце паставіў. Няма на вас, капіталістаў з трыбухамі, долараваімі Сёмы Будзённага, дый на хуткім кані, дый з гостранькай шабляй.

А на другі дзень у краме, дзе цвеліць вока каўбаска ўсіх колераў вясёлкі і на любы панскі стол, падыходзіць да мяне ветэран, пэўна, з "бацькавага" электарату актывіст. Працягвае мне сівы дзядок папяровы пакет з намаляванкай: вясёлая курка з лыжкай і пытаецца:

— Добры чалавек, дапамажы, — колькі з гэтага папяровага трыбуха літраў наварыстага кандзёру атрымаецца?

Я бяру гэтую капіталістычную "бомбачку", дзе праз празрыстае акенца бачны шасціроначкі з мяса, курынага, пэўна. Падумалася: суп з трыма гарошынамі на вясёлае баляванне, смачна.

— На наш сённяшні багаты час рыхтуйце паўвядра кіпеню і гэтую напханку туды шась, — як закіпіць, на тыдзень неблагая юшка.

Ветэран моўчкі выслухаў і працадзіў:

— Маёй пенсіі на пяць вядзёр...

А заўтра, калі спатрэбіцца, за Рыгоравічам пойдзе...

А пацвердзіць гэта адна паездка ў нашым грамадскім аўта-тралейбудане.

Двое ветэранаў голасна, каб усім чуваць (і, правільна, пра Рыгоравіча, калі ў падтрымку, можна голасна):

— Я асабліва люблю гэтыя, як на іх, ага, селектары. Усе сядзяць, насы павесіўшы, як радню ўчора пахаваўшы. Дармаеднікі, абібокі. А Рыгоравіч малайцом. Па загрыўку плясь! А, трасца тваёй матары! Паліва прадаў налева, а калгасным стаханаўцам на чым у поле гнаць? На сваіх двух? Тэхніка ў самоце, па вясёлым дымку сумуе. У цябе камбайны не адрамантаваныя... І не магу дачакацца, калі новы селетар накоціцца.

І праўда ж. Правадыр усё ведае. І колькі паліва трэба. І як засеяць поле. І колькі збожжа ў дзяржаўныя засекі засыплецца.

І толькі пасля зразумеў. Рыгоравічавы селектарныя нарады, прылюдныя ўшчуванні, бесцырымоннасць разлічаны... на каго, здагадайцеся? На цётак Хвядору, Матруну, Маню з Кошава, Бабоўні, Катоў... Яны ўключаць гучна тэлевізію, "свіное вуха" і слухаюць. Соваюць закарэлыя чыгуны ў печ, варыва для вепрукоў ці курчаткам рыхтуюць. А Рыгоравіч тым часам на ўсю моц чыноўніка трыбушыць.

І гэта пацвердзілася. Падчас камандзіроўкі ў Бабруйскі раён у двары сабралася некалькі кабет у ватоўках і плюшаўках і... слухалі гучнамацюгальнік — радыё. Рыгоравіч чарговы селектар наладзіў:

— Вой дае! Вой па загрыўку, — ці не захоплена гаварыла ўладальніца ватоўкі і задрыпаных кірзавых ботаў.

Пытаюся ў сябра, дырэктара акадэмічнага інстытута, прафесара. Некалькі тыдняў таму правадыр сустракаўся з вучонымі, і яго рэплікі не адрозніваліся ад тых каламбураў і імправізацый, якімі цешыў як механізатараў, так і работнікаў сярэдняга кіруючага звяна. Але ж тут вучоныя.

— Як жа вам сядзелася? Як жа можна было ўсё гэта слухаць вам, вучоным? Вы беражэце час, ашчадныя на слова, думку выкладаеце трыма, чатырма словамі — і некалькі гадзін запар лексіка ротнага палітрука. Хаця, калі па шчырасці, я ведаў, для каго вёў рэй Рыгоравіч. І не для акадэмікаў з кандыдатамі, а ўсё для той жа цёткі Гналі з Амговіч. І ведаю, як рэагавалі тыя ж уладальнікі плюшавак, ватовак і кірзавых ботаў.

— Вой дае Рыгоравіч! Так ім, гэным акадэмікам! Хлеб народны ядзіце! У калгас вас, на цукровы бурак, на бульбу!

А мне цікава, што адкажа прафесар.

— А я анічога не чуў. Я даўно ад такіх гаваруноў вушы берагу, таму і нервы ў мае шэсцьдзесят шэсць, што пяньковыя вяроўкі, — ён засмяяўся, — я пішу, я новыя ідэі пракручваю... малюю... А тое, што навокал, мяне не калыша. У Рыгоравіча свая кампанія, у мяне — свая справа...

— І так усе вучоныя? Выступае кіраўнік дзяржавы, а вы...

Прафесар адно хітра ўсміхнуўся, даўшы зразумець, што гаворка скончана.

Усе войкаюць, вохкаюць, а, значыцца, бацька на шухеры.

Аўтар шмат гадоў прабегаў з фотакайстрай, на хлеб абіваючы, з пасведчаннем фотакарэспандэнта сталічнай партыйнай газеты. І наздымаўся, лічыце, на ўсё жыццё. Асабліва ўражанне было ад бясконцых фестывальных тусовак, прысвечаных каторым па ліку гадавінам савецкай улады, вялікага правадыра і шмат чаго яшчэ. Было ўражанне, што ўся краіна спявала, у скоках цешылася. Падушыцца ў чэргах па каўбасу, па дэфіцыты, па... І ў спевы. І ў скокі. Партыі слава! Леніну слава!

І цяпер мяне цягне туды, дзе збіраюцца людзі. Шмат людзей. Розных. І старых, і зусім маладых. Але цяпер іх збіраюць. І б сказаў, прымусова — чыноўніцкай пугай. Трошкі прыгадак. Сямідзесятыя. Палац спорту. Цікавае відовішча, калі да купы збіраецца да некалькі тысяч ветэранаў вайны ў перамес з перадавікамі — трактарыстамі, даяркамі, старшынямі калгасаў, канторшчыкамі ў балонавых плашчах — усіх не пералічыш. Ходзяць купкамі, нясмелыя, ашаломленыя ад "павагі" да сябе. У кожнага ў руках — падарунак ад урада на рубель з дробяззю. І ўсе амаль безгалосыя, маўклівыя. Гэтыя прагаласуюць за ўсё.

І той жа Палац спорту праз чвэрць стагоддзя. І тая ж публіка праз дваццаць пяць гадоў. І нясмелыя, маўклівыя, насцярожаныя дэлегаты ад усіх беларусаў. Але большасць — чынавенства. Старшыні сельсаветаў, пасёлкаў, "вертыкальныя" усіх рангаў — дырэктары манаполек і буйных прадпрыемстваў — тыя, хто "трымае руку на пульсе часу". І ўсе амаль за Рыгоравіча. І так лічыцца, што за яго. Бо толькі знайшлася жменька смелых, якія выказаліся супраць тае рэзалюцыі. Усе добра памятаюць той эпізод...

Са спрацаванымі рукамі і з залатымі гадзіннікамі, і нізкаапла-чваемае чынавенства, і вясковыя паны — старшыні сельгасарцеляў. Абраныя, перапраўераныя актывісты, гукальнікі і прадаўжальнікі справы Рыгоравіча. І тая ж пайка мандры з ікрой, скрыдлей каўбаскі, "Крэм-сода", "Кока", падарунак за тысячу-мільён з капейкай, прэзідыум, асветленае да болю ў вачах зала, ды батальён хлопцаў-спартоўцаў з бегаючымі вачыма. Гэтым няма калі расслабон рабіць, — суцэльны шухер!

Самы хвалюючы момант. Выхад правадыра. Зала падхопліваецца. Гарачыя апладысменты. Правадыр засяроджана страляе вачыма. Ці не кідае позірк у той кут, дзе шчыльнай, цёмнай, пакорлівай чынавенскай талакой-плямай яго паплечнікі, аднадумцы, хаўруснікі дзяржаўнае справы? Вось дзе вы, субчыкі! І, праўда, цікава правадыру, хто з вас званчэй пляскае ў ладкі, правадыра вітаючы. Заўхоз не сачкуе. А як там адказны за бяспеку РБ. Ці не сачкуе міністр бездакорнае сувязі? Без імпэту і настрою міністр паліўнае гаспадаркі. А мо чаго пасміхаецца міністр, які пільнуе чысціню ў нашых пад'ездах, ствараючы ўтульнасць у кожным доме? Фотааб'ектыў перабягае на шчыльныя рады чынавенства, і я бачу змучаныя ўсмешкі... Пэўна і ім не да гучных воплескаў, але ж куды дзенешся. У калгасна-саўгасным клубе, дзе цесна і не разгарнуцца, не тая асалода, як у вялікім палацы...

І гучаць апладысменты, тысячы гарачых далоняў вітаюць правадыра.

Але што гэта? Побач ссівелы, змарнелы, як грыб-смарчок ветэран з двума ордэнамі пляскае і шэпча. Я прыслухоўваюся і чую сіплы голас:

— Скулля табе! Скулля! Скулля!..

### Шухер пісьменніцкі

Вядомая на нашых абшарах пісьменніца, што працуе ў часопісе з чуйным аглядам на славянскае братэрства і дбайным клопатам пра рускамоўнага чытача, патрапілася мне ў перапоўненым, абшарпаным тралей-будане. І некалькі супынкаў запар гундосіла мне на вуха. І пра што, спытаецеся?..

— Усім нам, значыцца "анцілігентам", як кажа цётка з Амговіч, трэба найхутчэй да збіцца да творчае купы і пільнавацца Рыгоравіча. Ён жа так дбае, так дбае і пра культуру, і пра вёску, і пра...

— Ага, — падтакваю я, — чуйна дбае, ад спеўнага ранку да соннага світанку, прыхапіўшы ночку ўтомную, перапынку не мае.

А яна як не чуе мяне, прадаўжае.

— Значыцца, усе мы, літаратары, цэхавыя з дзялянкі прыгожага пісьменства і ўдарнікі ратнага малявідла, павінны дружным творчым хаўрусным натоўпам рушыць у славянскі саюз — да Чэхіі, Славакіі, Польшчы, Харватыі, — працягваю я спіс, але яна перапыняе:

— З братняй Расіяй мы выстаім. Да Расіі і прытуліцца трэба.

— Ат, — дадаю, — у яе спадніца шырокая, хаця і дзіравая, але ўсе схаваемся.

— Без расійскай нафты і газу — гамон, — паэтэса-празаік выйшла з гэтымі словамі...

І на так званую сустрэчу з творчай інтэлігенцыяй, пастухамі за культурай, з сяла і горада сабраліся ўсе тыя, хто дапамагае Рыгоравічу стаяць на шухеры. Яны рэдагуюць правільна чэсныя газеты, чуйным вокам вычытваюць старонкі энцыклапедый, каб варожае слаўцо не пралезла, не праскочыла, выдаюць кнігі чэсных літаратараў. Яны загадваюць, узначальваюць, ухваляюць, гукаюць, упэўніваюць. І раззяўляюць раты, чакаючы, калі галоўны хлебарэз сваім людзям выкраіць пайку і кіне ім, збіўшымся да творча-хаўруснае купы, дзяржаўнае купы. Паэтка на сустрэчы павохкала, павойкала і не без дай прычыны: правадыр з тае ж магілёўшчыны, што і яна...

І тое вохканне заўважыў хлебарэз. Бачу ў тэлевоку: паэтцы бляху лаўрэацкую і канверт з самай цвёрдай валютай у Еўропе — эрбэшным рублём.

У тэлепаказе, які асвятляў візіт Рыгоравіча ў вайсковую часць, уразілі два моманты. У першым малады баец стрыжанай галавой б'е па цаглінах, ператвараючы іх у будсмецце. А другі маладзец у бушлаце хап за лапу мурзатую жабу і ў рот. Зжор і кропка. Такія байцы вой як патрэбны! І прыгадаўся прафесар са сваімі нячуйнымі вушамі да слоў правадыравых. Пэўна галавакалун больш цэніцца, чым галава навукоўца. Пакуль такія атлеты на шухеры, НАТА да нас не пасунецца.

Мастак Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ, г. Брэст.

## ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

# Главный экзамен

Дорогой юный друг!

Хотел бы надеяться, что своей жизнью я заслужил право на такое обращение к тебе. Если вычесть годы работы в чернобыльской зоне (6 лет), то вся остальная моя трудовая жизнь проходила среди молодежи. Через мою жизнь прошли десятки тысяч студентов и учащихся.

Обращаюсь я не ко всей молодежи вообще, а лично к тебе. У тебя трудное время — весенние или годовые экзамены. Все твои надежды связаны сейчас с успешным преодолением этого барьера. И кажется, более серьезных и значимых забот у тебя сегодня и быть не может. Но это лишь отчасти так. Конечно же, свои экзамены ты сдашь, я верю в тебя. Но наступит ли удовлетворение и ощущение свободы? И тут, я уверен, не все так просто.

Есть еще один экзамен, который человек сдает всю жизнь. Это самый главный экзамен. И самые трудные "билеты и вопросы" достаются человеку именно в твоем возрасте. Дальше тоже бывает нелегко, но самый трудный выбор ты должен сделать сегодня. И от этого выбора решающим образом зависит вся твоя жизнь. И не только твоя!

Этот главный экзамен — экзамен на человеческую зрелость и порядочность, на умение строить свою жизнь не только на выгоде лично для себя, но и на всем том, что нужно близким тебе людям. Это и экзамен на принципиальность, честность и смелость. Да, и смелость тоже! Ведь в жизни не все разумное приходит само по себе, не всем это разумное по душе. И вот тут-то люди разделяются на тех, кто смиряется со всем и, как "премудрый пескарь" Салтыкова-Щедрина, отсиживается в своей норе, и на тех, кому не по душе это позорное смиренчество и кто готов бороться за почетное право зваться Человеком.

То, кем ты станешь в будущем, решающим образом зависит от твоего выбора сегодня. Не знаю я случаев, когда бы "пескарь" превращался в человека, достойного уважения. Внутренняя суть премудрого пескаря сопровождает его всю жизнь. Ты ведь и сам наверняка встречал в своей жизни таких людишек. Они не просты: пескариное племя многолико. Это не только тот, кто готов смиренно принимать все удары судьбы, ожидая, что кто-то другой сделает что-то полезное и очень нужное для него. Это и тот, кто в угоду себе или другим сам готов наносить эти удары тем, кто не имеет возможности на них ответить. Трусливая сущность таких "героев" мгновенно проявляется, как только его собственная безнаказанность оказывается под угрозой. Это и тот, кто с подобострастной старательностью выполняет все предписания "вышесидящих", напуганных твоим возможным непослушанием. Прельщает ли тебя перспектива влиться в это "пескариное племя"?

Но давай же вместе с тобой оглянемся на окружающую нас жизнь, на все то, что происходит вокруг нас.

Сколько сегодня старых людей бродят около мусорных ящиков, надеясь извлечь из них хоть что-нибудь для себя полезное. Разве не заслужили они всей своей жизнью ничего более достойного? Разве не они воспитали своих детей и внуков, передав им не только тепло своих душ и рук, но и наказ защищать тех, кому они обязаны своими жизнями и кто уже не способен сам защитить себя?

Ты ведь наверняка знаешь, как твоим родителям и дедам с каждым годом все труднее и труднее сводить концы с концами. Нищенские пенсии, да и зарплаты тоже, лишают их самого элементарного. Того, что еще 5—10 лет назад было вполне возможным. Что же их ждет впереди?

Ты ведь наверняка знаешь многих ребят и девчат, потерявших надежду реализовать себя и обеспечить себе и своей семье достойную жизнь в своем отечестве. Многие из них уже ищут счастье в чужих краях. Уезжают туда те, кого не смогли оценить здесь и кто оказался нужным в тех, весьма цивилизованных странах. А наша страна все более и более беднеет.

Большинство предприятий, как выражаются сами руководители, "лежат на боку". А рабочие, в том числе и молодые люди, только начинающие свою жизнь, все больше теряют интерес к своей работе и... пополняют ряды сторонников "спасительного зелья". А наука, бывшая в свое время гордостью нашей страны, тоже влачит сегодня жалкое существование.

Уверен, что все это видишь и ты. Конечно же, и тебя всякие мыслишки мучают. И ждут, ждут, ждут от тебя ответа. Существуют же причины столь бурного развала всего в нашей стране. Можно, конечно же, делать вид, что все это тебя не касается и не интересует. Есть даже такое "мудрое" оправдание: я не интересуюсь политикой. Увы, до тех, кого не интересует политика, она добирается сама и добирается не слишком деликатно.

Я не буду навязывать тебе свое видение на все происходящее в нашей стране. Мне не хотелось бы унижать тебя подсказками. Ты сам все видишь и сам в состоянии найти свое место в спасении своей страны от окончательного краха. Решительности и смелости тебе! Трусость и меркантильная забота только о своих личных интересах еще никогда и никого не украшала! Искренне верю, что и Главный Экзамен в твоей жизни ты сдашь успешно!

С искренним участием в твоих и наших делах

**твой друг — профессор Георгий ЛЕПИН.**

Летнія клопаты.

Фота IREX/ProMedia.

# Вот-вот позвонят в вашу дверь...

9 сентября я, как и многие мои ровесники, впервые пойду на выборы Президента Республики Беларусь. У нас будет возможность принять решение, которое может, наконец, изменить наше будущее. Но решить, за кого мы голосовать точно не будем, гораздо проще, чем определиться, кому стоит отдать свой голос.

Похоже, конкурс на должность 2-го Президента Беларуси этой осенью ожидается нешуточный. А мы, рядовые избиратели, будем растерянно смотреть на список претендентов. Выбирать. Сложнее всего будет тем, кто интересуется политикой от случая к случаю, если не сказать — от выборов к выборам. Да и одно дело — выйти на улицу и поддержать какую-нибудь акцию оппозиции, а совсем другое — проголосовать за одного-единственного конкретного человека.

Некоторые имена в списке кандидатов могут показаться многим в лучшем случае малознакомыми. О А.Г.Лукашенко, безусловно, такого не скажешь. М.Чигиря у нас тоже, в принципе, знают. А вот с его коллегами по КРДС дело обстоит сложнее. Ну не успели они зарекомендовать себя чем-то таким, о чем знала бы вся Беларусь. Конечно, их имена знакомы многим, но этого может оказаться недостаточно.

Вроде бы есть еще один человек, желающий принять участие в выборах, — З.Позняк. Но шанс увидеть его имя в избирательном бюллетене, к сожалению, невелик. Тот факт, что он уже несколько лет не живет в Беларуси, вроде как лишает его возможности баллотироваться в президенты.

Конечно же, появятся еще несколько претендентов и уже в ближайшее время. Даже если выборы пройдут нормально, тягаться с нынешним президентом будет непросто. Если КРДС все-таки определится с единым кандидатом и верно уловит настрой общества, мой настрой, у этого человека будет возможность побороться за президентское кресло.

А пока уже в ближайшее время можно ожидать, что в дверь позвонят представители потенциальных кандидатов в президенты и попросят поставить подпись в их поддержку. И свой первый выбор придется делать уже в этот день.

**Алла БОГДАНОВА, студентка.**

РАДЫЁ "РАЦЫЯ"

# Думаць не жыватом, а галавой

Расійскі Цэнтрабанк выдаткуе Беларусі першы транш стабілізацыйнага крэдыту ў 150 млн. долараў толькі пасля прэзідэнцкіх выбараў. Да гэтай высновы прыходзяць расійскія і беларускія аналітыкі. У Цэнтрабанку Расіі і Нацбанку Беларусі дыпламатычна заяўляюць, што выдаткоўванне крэдыту адкладваецца па тэхнічных прычынах.

Сумная для афіцыйнага Мінска гісторыя з атрыманнем расійскай фінансавай дапамогі цягнецца ўжо больш за паўгода. Цэнтрабанк Расіі прыняў рашэнне выдаткаваць стабілізацыйны крэдыт памерам 4,5 млрд. расійскага рубля (каля 150 млн. долараў) яшчэ летась. І А.Лукашэнка моцна спадзяваўся на пачатку года ўбачыць першы транш гэтых расійскіх грошай — 100 млн.долараў. Аднак дагэтуль Беларусь не атрымала ні капейкі.

Першапачатковай умовай Цэнтрабанка, неабходнай для выдаткоўвання першай часткі крэдыту, была ратыфікацыя пагаднення аб адзінай валюце. Але пасля ратыфікацыі высветлілася, што расійцы гатовыя даць грошы толькі пасля абмену ратыфікацыйнымі лістамі. З моманту перадачы ратыфікацыйных лістоў мінула ўжо больш за месяц, аднак грошай як не было, так і няма.

У Цэнтрабанку Расіі дыпламатычна заяўляюць, што зараз ідзе абмеркаванне тэхнічных момантаў. У Нацбанку Беларусі ўвогуле адмаўляюцца каменціраваць тэму расійскіх грошай. Гэтае маўчанне цалкам зразумелае, калі ўлічыць, што да гэтага часу Крэмль ніяк не праартыкуляваў сваіх прыхільнасцяў адносна беларускіх выбараў. Аляксандр Лукашэнка пакуль не атрымаў расійскіх грошай і да выбараў наўрад ці атрымае. Да гэтай думкі прыходзяць беларускія аналітыкі.

Каменціруючы Радыё "Рацыя" гэтую сітуацыю, былы супрацоўнік Нацбанка, кандыдат эканамічных навук Валерый Дашкевіч заявіў:

— Прынцыповая дамоўленасць ёсць. Але ж крэдыт — гэта справа тонкая. Я мяркую, што грошы пойдуць не раней за сярэдзіну верасня.

**РР: — Гэта значыць пасля першага туру выбараў, калі беларуская карціна стане больш-менш зразумелая?**

**В.Д.:** — Так. Акрамя таго, зараз ідзе маніторынгавая праграма МВФ, і Расія павінна азірацца на МВФ. А размовы пра адзіны грашовы сродак пакуль не маюць пад сабой глебы, бо эканомікі Беларусі і Расіі рухаюцца ў супрацьлеглых кірунках. І ў Крамлі гэта вельмі добра разумеюць. Прамаруджванне з выдаткоўваннем расійскага крэдыту напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў дае мінімальныя спадзевы канкурэнтам Аляксандра Лукашэнкі на тое, што беларускія выбаршчыкі пачнуць думаць не жыватом, а галавой.

**Юрась КАРМАНАЎ.**

